# Праваабарончы веснік

ліпень 2014

Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

## МАГІЛЁЎСКАЯ МІЛІЦЫЯ КАНФІСКАВАЛА НАКЛАД БЮЛЕТЭНЯ “САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ” І ГАЗЕТЫ “НАШ МАГІЛЁЎ”

**Агулам было канфіскавана амаль 12 тысяч незалежных газет.**

Уначы 16 ліпеня, ў 0-20 быў спынены аўтамабіль, у якім знаходзіліся экс-кандыдат у прэзідэнты ад Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) Ігар Барысаў.

Супрацоўнікі ДАІ праверылі дакументы і сказалі, што ім з Магілёўскага РАУС паступіла арыенціроўка на аўтамабіль “Мэрсэдэс” чорнага колеру, які нібыта здзейсніў хуліганства ў Бялынічах. Для разбіральніцтва інспектары прапанавалі праехаць ў Магілёўскі РАУС.

- Як толькі сказалі, што ёсць арыенціроўка на мой аўтамабіль, я адразу зразумеў, што проста так нас не адпусцяць, бо ўсе дакументы на аўто былі ў парадку. Інспектары праверылі багажнік, атрымалі адказ, што вязем паперу ў пакунках, аднак адкрываць і глядзець што там не сталі. Проста суправадзілі нас у РАУС. Адметна тое, што ні ў якія Бялынічы мы па дарозе не заязджалі, - распавядае Ігар Барысаў.

У РАУСе склалі пратаколы апытанняў і пратакол агляду аўтамабіля, пасля чага канфіскавалі да судовага разбіральніцтва друкаваную прадукцыю. У міліцыянтаў дэмакраты прабылі амаль тры гадзіны.

- Міліцыянты, як і супрацоўнікі ДАІ былі больш чым абыходлівыя і ветлівыя. Яны цудоўна разумелі, што адбываецца, і што мы не звычайныя крымінальнікі ці дэбашыры, а прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі, якая па ўказцы зверху пераследуецца. Тым не менш, яны выканалі сваю працу, - працягвае Ігар Барысаў.

Намеснік старшыні БСДП адзначае, што бюлетэнь “Сацыял-дэмакрат” быў цалкам прысвечаны пытанням “Народнага рэферэндума”, а газета “НАШ Магілёў” – інфармацыйнай кампаніі “Захаваем стары Магілёў”.

Цяпер Ігар Барысаў чакае даты судовага пасяджэння, дзе будзе вырашаны далейшы лёс друкаванай прадукцыі.

## МАГІЛЁЎСКІЯ ПРАВААБАРОНЦЫ ПАДАЛІ ЗАЯЎКУ НА ПІКЕТ У ПАДТРЫМКУ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ




17 ліпеня магілёўскія праваабаронцы падалі заяўку ў Магілёўскі гарвыканкам на правядзенне пікета ў патрымку палітычных зняволеных. У заяўцы праваабаронцы просяць даць дазвол на правядзенне пікету 4 жніўня ў цэнтры горада.

Падчас пікету праваабаронцы плануюць прыцягнуць увагу грамадзянаў да праблемы наяўнасці палітвязняў у краіне, распаўсюджваючы адпаведныя выданні і матэрыялы. Мэта пікетавання - патрабаванне вызвалення беларускіх палітычных зняволеных.

Нагадаем, што 4 жніўня 2011 года быў арыштаваны старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі. Палітвязень правёў за кратамі амаль тры гады: 21 чэрвеня 2014 года ён быў вызвалены па амністыі. Цяпер дзень 4 жніўня адзначаецца грамадскасцю як Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.

# БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА Ў МАГІЛЁВЕ ТРЫМАЕЦЦА НА ЯЛІНЦЫ

**У Магілёве здымаюць рэклямны відэаролік пра адзіную ў горадзе клясу зь беларускай мовай навучаньня. У галоўнай ролі адзіная яе вучаніца Ялінка Салаўёва.**

Ялінка скончыла пачатковую школу і рыхтуецца да пятай клясы. Пакуль у дачкі канікулы, бацькі шукаюць для яе вучнёўскую кампанію. Усе чатыры гады навучаньня Ялінкі яны не губляюць спадзеву, што знойдуць у вялікім горадзе бацькоў, якія захочуць, каб і іхныя дзеці вучыліся таксама па-беларуску. Дзеля гэтага і здымаюць рэклямны ролік.

Ці ёсьць пэрспэктывы, што адзіная ў Магілёве беларускамоўная кляса з адным вучнем застанецца, і якія посьпехі ў навучаньні самой Ялінкі Салаўёвай? Свабода далей сочыць за яе лёсам.

Бацькі наважаныя на тое, каб Ялінка працягвала вучыцца і ў пятай клясе на беларускай мове. Зьміцер Салаўёў зазначае, што гэтаму няма пярэчаньня ў школе. Усё неабходнае для навучаньня, ёсьць. У школе, кажа ён, звыклілася зь незвычайнай для Магілёва клясай.

«Ды й наагул увага да школы ёсьць. Заўсёды клясу ставяць, калі трэба зьвязаць нешта зь беларускай мовай, — даводзіць ён. — Але праблема ўсё адно застаецца. Зразумела, што ў яе ёсьць пэўныя нэрваваньні. Яна хоча, каб было шмат дзетак у клясе. Яна стала больш дарослай і крыху адчувае сябе «белай варонай».

Пад пятую клясу шмат бацькоў, кажа Зьміцер, плянуюць пераезды і падшукваюць для сваіх дзяцей новыя школы. Магчыма нехта з іх і захоча працягнуць навучаньне ў беларускамоўнай клясе, спадзяецца бацька Ялінкі:

«Цяпер стаіць задача, — працягвае ён, — разрэклямаваць кляс і школу, каб людзі даведаліся пра іх. Ужо чатыры гады мінула, як Ялінка вучыцца, але зьяўляюцца людзі, якія пытаюць: «А што ёсьць такая кляса ў Магілёве». Вельмі мала рэклямы. Яе трэба рабіць у дваццаць, а у сто разоў болей, чым мы рабілі. Аднак у нас абмежаваныя і магчымасьці і час«,— прызнаецца Зьміцер Салаўёў.

Першая магілёўская школа, дзе вучыцца Ялінка Салаўёва ў цэнтры гораду. Яна адна зь лепшых мясцовых навучальных установ і адна са старэйшых. Чатыры гады вучыла Ялінку настаўніца Натальля Аляксандраўна. Яна адзначае, што яе навучэнка мае выдатныя здольнасьці, але, прызнаецца пэдагог, цяжка вучыць дзіця, калі яно адно ў клясе:



*Ялінка Салаўёва з мамай Надзеяй*

«У Ялінкі павінен быць калектыў. Калектыву няма. Мы зь ёй увесь час сам на сам. Ёй цяжка. Ня мне, а ёй цяжка. Штодня і кожны ўрок бачыць аднаго і таго ж настаўніка. І пытаньні да яе адной і адказы ад яе адной. Павінны быць яшчэ дзеці».

Чаму ж бацькі не наважваюцца аддаваць дзяцей вучыцца на роднай мове, пытаю ў Натальлі Аляксандраўны:

«Я шчыра кажу, што гэтага не разумею. Якая розьніца, на якой мове вучыцца. Але ж у нас у ВНУ ўсё выкладаецца на расейскай мове, ды й мы самі размаўляюць па-расейску. Відаць, гэта не давер да роднай мовы. Так, хутчэй недавер»,— адказвае настаўніца.

Зьміцер Салаўёў не згаджаецца з настаўніцай, што бацькі не аддаюць дзяцей вучыцца ў беларускія клясы празь недавер да беларускай мовы. Але пагаджаецца, што іх непакоіць адсутнасьць магчымасьцяў працягваць беларускамоўнае навучаньне:

«Бацькі кажуць: «Мы паважаем мову, хочам, каб яна была адзіная ў краіне, аднак, пакуль ня будзе вышэйшай адукацыі, мы сваіх дзяцей не аддамо, бо дзеці будуць вучыцца на адной мове, а іспыты здаваць на іншай, гэта будзе праблема».

Рэклямаваньнем клясы займаюцца пераважна бацькі Ялінкі Салаўёвай. Час ад часу ім дапамагаюць актывісты грамадзкіх арганізацыяў, ці простыя людзі. Паводле Зьмітра Салаўёва чыноўнікі заяўляць, што на сходах з бацькамі яны даводзяць ім інфармацыю пра існаваньне ў Магілёве беларускамоўнай клясы.

Пад сёлетні навучальны год будзе зьняты пра клясу рэклямны ролік. Яго ўжо пачалі рабіць. За гэта ўзяўся рэжысэр Вячаслаў Сікора. Сцэнар да стужкі падрыхтавала маці Ялінкі Салаўёвай — Надзея.

Сытуацыю зь беларускамоўным школьніцтвам у Магілёве Вячаслаў Сікора характарызуе каротка:

«Ды ўжо ўсе да такога стану прызвычаіліся, і ўжо ніхто не задаецца пытаньнем пра беларускую мову. На жаль».

Кляса зь беларускай мовай навучаньня зьявілася ў Магілёве пасьля амаль дзесяцігадовага перапынку, дзякуючы намаганьням грамадзкасьці. Калі надышоў час запісваць у яе дзяцей, гэта зрабіла толькі сям’я Салаўёвых. Непрацяглы час разам зь Ялінкай вучыліся яшчэ двое дзяцей, але з-за праблемаў у сям’і іх перавялі ў іншую школу.

# ВЫДАЎЦУ “ВОЛЬНАГА ГОРАДА” ВЯРНУЛІ ГРОШЫ, ВЫПЛАЧАНЫЯ ЗА СУДОВЫЯ ВЫДАТКІ

Выдавец незалежнай крычаўскай газеты “Вольны горад” Уладзімір Кудраўцаў 14 ліпеня атрымаў грашовы перавод на суму 940 тысяч рублёў ад КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280”. Такім чынам, нарэшце скончылася шматмесячнае судовае супрацьстаянне паміж газетай “Вольны горад” і адміністрацыяй прадпрыемства.

Нагадаем, што 4 чэрвеня 2014 года суддзя суда Крычаўскага раёна Антаніна Качанава пастанавіла адмяніць рашэнне суда Крычаўскага раёна ад 10 верасня 2013 года па наноў адкрытых акалічнасцях і вярнуць грошы ў памеры 945 000 рублёў выдаўцу газеты “Вольны горад” Уладзіміру Кудраўцаву.

Адміністрацыя Чэрыкаўскага ПМК-280 не стала абскарджваць рашэнне суда Крычаўскага раёна і вырашыла вярнуць грошы.

Нагадаем таксама, што 10 верасня 2013 года адбылося паседжанне суда Крычаўскага раёна, на якім тая ж суддзя суда Крычаўскага раёна Антаніна Качанава задаволіла пазоў КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280” і пастанавіла спагнаць з журналістаў “Вольнага горада” гро-



*Уладзімір Кудраўцаў*

шы ў памеры 945 000 рублёў на карысць ПМК на пакрыццё судовых выдаткаў і аплату паслуг адваката. Суддзя Качанава задаволіла пазоў КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280” на падставе рашэння суддзі суда Крычаўскага раёна Аляксандра Курыліна ад 17 чэрвеня 2013 года па пазову аб абароне дзелавой рэпутацыі з боку КУП “Чэрыкаўскае ПМК № 280” супраць незалежнай газеты “Вольны горад”. Тады суд прызнаў распаўсюджаныя ў газеце “Вольны горад” (№ 4 ад 3 лютага 2013 года) у артыкуле “Прыгонныя” звесткі адносна КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280” не адпавядаючымі рэчаіснасці і абавязаў газету “Вольны горад” апублікаваць абвяржэнне. Пазней рашэнне суда Крычаўскага раёна ад 17 чэрвеня было адмененае прэзідыўмам Магілёўскага абласнога суда.

Артыкул “Прыгонныя” быў напісаны пасля тэлефанавання ў рэдакцыю “Вольнага горада” жонкі працаўніка Чэрыкаўскай ПМК №280. Жанчына сцвярджала, што яе муж не можа атрымаць заробак ужо трэці месяц. Журналісты «Вольнага горада” параілі ёй звярнуцца па дапамогу ў Крычаўскую міжраённую інспекцыю па ахове працы.

Адміністрацыя ПМК № 280 убачыла ў артыкуле мэту “дыскрэдытаваць кіруючае звяно “Чэрыкаўскага ПМК-280” і раённую вертыкаль улады”.

# ЗАЎЗЯТАРА МАГІЛЁЎСКАГА «ДНЯПРА» НЕ ПРАПУСЬЦІЛІ НА МАТЧ У МАЙЦЫ З «ПАГОНЯЙ»




Як паведамляе сайт Belultras.by, на матчы чэмпіянату Беларусі па футболе, паміж «Дняпром» і «Гомелем», які праходзіў у Магілёве, заўзятара «Дняпра» не прапусцілі на матч у майцы з «Пагоняй». Тлумачэнні АМАПу былі стандартныя:

«Загад зверху, хіба вам не зразумела? Або хочаце на суткі?»

Заўзятары задаюцца пытаннем, ці ў дадзенай сітуацыі, не прапусціўшы заўзятара ў майцы з «Пагоняй», супрацоўнікі АМАПу парушылі закон і правы?

Belultras.by ужо неаднаразова паведамляў пра тое, што фанатаў менскага «Дынама» пастаянна не прапускаюць на стадыён у майках з Пагоняй, а таксама з бел-чырвона-белым сцягам.

# ПОДДЕРЖИТЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ!

**Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите письмо политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.**

**Николай Статкевич, Евгений Васькович, Николай Дедок:**
212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Артем Прокопенко:**
213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Эдуард Лобов:**
225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Игорь Олиневич:**
211300, Витебская обл., Витебский р-н, п. Витьба. ИК №3.

**Василий Парфенков:**
213410, Могилёвская обл., г. Горки, вул. Добролюбова, 16, ИК №9

# ГРАМАДСКАСЦЬ МАГІЛЁВА ВЫСТУПАЕ ЗА ВЫКЛЮЧЭННЕ РАСІЙСКІХ ТЭЛЕКАНАЛАЎ З СЕТКІ ТЭЛЕВЯШЧАННЯ

Паводле прадстаўнікоў шэрагу грамадскіх арганізацый і прафсаюзаў горада, праз расійскія тэлеканалы ідзе распальванне нацыянальнай варажнічы. Пра гэта паведаміў адзін з ініцыятараў інфармацыйнай кампаніі «Грамадскі кантроль» Уладзімір Шанцаў, якая ўчора, 20 ліпеня, стартавала ў Магілёве.

- Замест таго, кааб, гледзячы расійскія каналы, глядзець інфармацыю пра Расію, мы бачым зусім іншае - мы глядзім інфармацыю пра Украіну. Прычым гэтая інфармацыя далёка не праўдзівая, скажае факты і з'яўляецца нічым іншым, як дзяржаўнай расійскай прапагандай, якая паклёпнічае на нашых суседзяў украінцаў, - кажа Уладзімір Шанцаў.

Грамадскі актывіст адзначае, што ўжо падрыхтаваны калектыўны зварот у дырэкцыю тэлевяшчання з падобнай прапановай, ён абмеркаваны актывістамі, і ў бліжэйшы час будзе накіраваны адрасату.

Трэба адзначыць, што ў інфармацыйнай кампаніі «Грамадскі кантроль» прымаюць удзел незалежныя прафсаюзы, а таксама шэраг дэмакратычных арганізацый горада.

**БОЛЕЙ ПРАВААБАРОНЧЫХ НАВІНАЎ ЧЫТАЙЦЕ НА**

**www.mahilyowspring.org**

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна», Радыё Свабода*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.